У Д К 882.6-1
Б Б К 84(4Беи)6

**Ліпай Алесь.**

Пад сьнегам. Кніга паэзіі. — Мн.: ФілСерв плюс, 2001,— 196 с. +24 іл.

ISBN 985-6489-32-6.

У кнізе сьцісла, дакладна і шчыра зафіксаваны многія рэаліі сёньняшняга духоўнага і палітычнага жыцьця Беларусі, як на своеасаблівай літаратурнай кардыяграме, накрэсьлены ўзрушэньні і заміраньні нераўнадушнага сэрца.

*Зь вялікай удзячнасьцю дамастака Ягора Батальёнка, карціны якога цудоўным чынам супалі з настроем майго жыцьця.*

***А.Ліпай***

У Д К 882.6-1

У кнізе зьмешчаныя рэпрадукцыі карцін Ягора Батальёнка.
На вокладцы — Абярэг, 1995.

ISBN 985-6489-32-6.

Гэтую кніжку я азначыў бы коратка як нататнік таленавітага чалавека.

У ёй сьцісла, дакладна і вельмі шчыра зафіксаваны многія рэаліі сёньняшняга духоўнага і палітычнага жыцьця Беларусі, як на своеасаблівай літаратурнай кардыяграме, накрэсьлены ўзрушэньні і заміраньні нераўнадушнага, збалелага сэрца.
Акрамя відавочнага і, як мне здаецца, важнага сьведчаньня аб сваім часе, старонкі гэтай паэтычнай кніжкі пераконваюць у безумоўных мастакоўскіх здольнасьцях аўтара, у яго сур'ёзным творчым патэнцыяле, які дужа хацелася б у самую блізкую пару зноў убачыць пацьверджаным і паўнавартасна выяўленым у слове. Тыя эксьперыменты, у якіх даволі ўпэўнена пачувае сябе малады паэт, шырыня абсягу зацікаўленьняў і натуральная, нават падкрэсьленая прывязанасьць да традыцый,да глыбіннага ў гісторыі Бацькаўшчыны, даюць усе падставы ня толькі спадзявацца на новыя самабытныя творы, але і верыць у ягонае далейшае прафесійнае сталеньне.

Мне было цікава знаёміцца зь неардынарным, споведным "нататнікам" Алеся Ліпая. Не сумняваюся, што і вы, раскрыўшы гэтую кнігу, прачытаеце ўсе "запісы"да канца з добрым і сьветлым пачуцьцём...

*Генадзь Бураўкін*

**Сяброўскія адносіны да хворага**

Лёс мой — што лёс Беларусі:
здэцца, была надзея...

Хворы, на дол павалюся,
буду пытацца:
"Дзе я?"
Нехта глуха адкажа:
«Ту-у-у-та! ,—
пойдзе і побач ляжа,
мой адбіраючы смутак.
Будзе песьню нашэптваць,
выдаючы за чужую..»

Яму — да вясны далежваць.
Я ж нават не даначую.

* * *

*Пад сьнегам вякоў — зямля Беларусі.*
*Здаецца, для йдучых з чужыны завей*
*няма па ўсім сьвеце вялікшай спакусы,*
*як толькі выстуджваць яе.*

*Застылай на самай пранізьлівай ноце*
*мелодыяй вусьціішных казак і дзей*
*вятры расьпінаюць тутэйшых людзей*
*на крыжыках іхніх жалоб па свабодзе,—*
*Майляў, паспрабуюць няхай уваскрэснуць!*

*Сьпяваючы ім велічальную песьню,*
*завеі*
*цяжараць іх веі,*
*а зграі вятроў*
*студзяць іхнюю кроў...*

* * *

*Касьмічны холад падае на край,*
*як надыходзіць люты.*
*А тут бяда: хто — невядома скраў*
*агмень людзкой любві,*
*пакінуў лютасьць.*
*І люд — хаця, брат, адкажы,*
*што засталося ў ім людзкога? —*
*злавіць на гэтым крадзяжы*
*спрабуе Бога...*

* * *

*Я, — зноў у чужым горадзе*
*зьнячэўку вясной выцяты,*
*на сусьветавай мордзе,*
*быццам скула, вытырк.*

*Але свайго ня выракся:*
*як ні было б высака, —*
*на пляц, свой з гэтых высяў*
*выціснуся пырскай.*

* * *

*Самы судны дзень. Самы сумны горад.*
*Як яго чужой мараю агораць?!*
*Нечый дабрадзей — ім жа кляты вораг,*

*здраднік некаму — ім жа баславёны,*
*у самотны дзень ад самот збавёны. —*
*Чым не Іісус, чалавецтвам сьнёны?*

*Самы страшны цень. Самы стратны горад.*
*І па ім вар'ят, нейчым шчасьцем хворы,*
*расьцякаецца пачуцьцёвым гворам...*

*Не тапчы яго бруднаю падэшвай,*
*бо, натоўпе, лёгка пакаўзьнешся.*

* * *

*Чатыры сьцяны чужыны.*
*Падлога — ў дошках дарог.*
*І толькі адна сьцяжына*
*вядзе на родны парог.*

*А я ейны пыл ад іншых*
*адрозьніў бы і сьляпым...*

*Дурны быў, пайшоў — і выйшаў.*

*Назад, каб ня ўлёгся пыл.*

* * *

*Тою ноччу продкі ажылі, —*
*у нагах ля нашых ложкаў сталі,*
*мовілі:*
*— Дык гэтак вы, засранцы,*
*берaглі пакінутае вам?!*

*Нам тых слоў было не разабраць:*
*што-што, а сьпімо даволі моцна;*
*нават і ня бачылі, як старцы*
*з покуці здымалі абразы,*
*выцерлі зь іх сьвятатацтва пыл,*
*тройчы імі нас перахрысьцілі*
*і сышлі зноў пад свае капцы...*

*Глянь у кут — там зараз павуціньне.*

* * *

*Дажыўся, народзе! Ужо не бруіцца*
*ў венах тваіх зьнямоглых —*
*перасыхае, быццам крыніца,*
*мова...*

* * *

*Шчасьце — нібыта Пан Бог:*
*адзіны доказ Ягонага існаваньня —*
*а большага і ня трэба —*
*мая вера.*

* * *

*На выцьвілым, аж белым, небе*
*крывавіць шнар-усход...*

*Пад гэтым сьцягам хісткай грэбляй*
*ідзе кудысь народ:*
*зьнямоглыя нямыя твары.*
*Што сэрца — то гузак...*

*Як не патоне ўвесь у твані,*
*дык вернецца назад.*

* * *

*Вусны здольныя толькі на ўсьмешку.*
*Невядома ім слоў хараство,*
*як ні сілюся вымавіць нешта...*

*О Спадару Нябёсны, за што?!*
*А калі перад некім я вінны,*
*як, нямому, грахі замаліць?*
*Навучы і даруй, перш чым сына*
*прынясеш у ахвяру зямлі,*
*бо душы без Твайго даравання,*
*быццам кані, пакутаваць век.*
*А ці ж месца пакутам і зданям*
*у названай Сусьветам царкве?*
*Што ж ты, Божухна, не азавешся?*

*З-пад цяжарных сьлязою павек*
*запытальна гляджу на твае*
*вусны, здольныя толькі на ўсьмешку.*

**Не**

*— Яны чужыя, хіба ты ня бачыш?!*
*Іх справы і надзеі — не аб тым.*
*Ня хопіць ні цынізму, ні сьвятынь*
*азызлыя іх душы перайначыць.*
*Для іх дзіравай беларускасьці*
*ня хопіць ні Радзімы, ні чУЖЫНЫ —*
*усё адно пагубяцца пад ганкамі хацін,*
*як высьлізнутыя з рукі ажыны.*
*Яны абралі самі гэткі лёс —*
*і Гэткі Лёсе будзе іхняй карай.*
*А мы пайшлі. Узьмежкам ці ральлёй —*
*абы ня мець ні мары пад папарам.*
*Пайшлі ад іх, каб не зчужэць самім,*
*а імі нават думак не страміць...*

*— Куды ты пойдзеш ад свайго народу?*

**Малітва сьляпога беларуса**

*Выдадзеная, як Хрыстос, вучнямі сваімі*
*на крыж зь мячоў Захаду і Усходу,*
*вымушаная кожнаму пакаленьню нашчадкаў*
*здраднікамі сьвярбець,*
*о, Бялюткая Русь, кліч дзецюкоў са сьвяточных карагодаў,*
*О, Балюткая Русь, дай ім апошнюю зброю — любоў да цябе!*

*Годзе ім ужо па цямнюткіх завугольлях сэрцаў*
*мары, быццам паненак, ціскаць,*
*годзе пад радыяцыйнымі дажджамі чужынскай палітыкі гібець, —*
*кліч дзецюкоў, а ня то яны могуць мову па сьвеце распырскаць,*
*падобна лацінскай,*
*І, толькі трухлеючы, плішчыцца будуць*
*у нетры твае ўсё глыбей.*

*Адбяры іх ад немачы сьвятататных песень,*
*ад небачы вядзьмарскага дзіва,*
*дай ім трохі сораму ў вялікім шчасьці*
*й вялікага гонару ў бядзе! —*
*Малюся табе, заклінаю цябе, о Бялютка-Балюткая мая Радзіма!*
*І тады я нават вачыма кія здолею убачыць твой будучы*
*дзень.*

* * *

*На Радзіме няма пракокаў.*

*Ёсьць героі, зладзеі ёсьць,*
*а каб хто паказаў дарогу,*
*на якой нас пакіне злосьць,*
*на каторай сустрэне шчасьце —*
*паасобку ці разам усіх —*
*не супалі мы зь імі па часе,*
*на Радзіме нябачна іх.*

*Без пракокаў, вядома ж, нялёгка —*
*люд ня ведае, што рабіць:*
*ці то заўтрашняе галёкаць,*
*Ці то сёньняшняе згубіць.*

*На Радзіме няма пракокаў,*
*бо прарок бы ўстаў і сказаў:*

**Рэквіем па маністках**

*памяці бацькі майго*

*Пайду і я. Што аднаму сядзець?*
*Захутаюся ў матчыну чамару,*
*на сьцежку наніжу маністкі-мары,*
*якія пералічваў пасяньдзень.*

*Сьцяжынку гэту пратаптаў карван,*
*калі ў апошні дзень майго дзяцінства*
*натоўп мяне ў сваіх шкадунках сьціскваў*
*і пацеркі блішчастыя ірваў.*

*Што тут казаць — ня здолеў, не зьбярог.*
*Хаця якая ў тым была патрэба? —*
*На вопратцы нахмаранага неба —*
*плярэзы лістападаўскіх бяроз...*

*Маністкі я пасабіраў пасьля.*
*Нічога, што застрэміўся ігліцай, —*
*затое мог перад сабой хваліцца:*
*вось як шаную спадчыну, маўляў.*

*Але душы нічым не дагадзіць, —*
*усе адно нанізвае на стрыжань*
*патрэсканага бацькавага крыжа*
*маністкі непадлічаных гадзін.*

*Прысяду тут. Што аднаму хадзіць?*

* * *

*Вільня сьпіць. Як доўга Вільня сьпіць!*
*Ейных сноў ланцуг, знайдзіся мерка,*
*быў бы карацей адно за сьпіс,*
*складзены тым часам Пані Сьмерцю.*

*Вільня сьніць. І слухае праз сон,*
*а ня можа зразумець той мовы,*
*на якой гаворыць люд мясцовы —*
*пра каханьне, пра жыцьцё і скон.*

*Вільня трызьніць. Пад гудкі аўто,*
*дробнае выстукваньне абцасаў —*
*Вільня трызьніць не пра Тую, што*
*так дашкліва сьпіс вядзе тым часам.*

*Ейных сноў ланцуг, — знайдзіся дзе*
*майстар, каб у бронзе распавесьці, —*
*зьнітаваны лёсамі людзей,*
*чый адметны знак — магнацкі персьцень.*

*З-пад яго выходзіў роўны сьлед,*
*што на твары, што на тэстамэньце...*
*Толькі ўсё сыходзіць, быццам глей,*
*быццам глей праз пальцы Пані Сьмерці.*

*Шоргат гэты чуецца праз сон,*
*не дае ўзгадаць Сьвятое нешта...*

*І ад мовы засталася рэшта —*
*Пра Каханьне.*
*Пра Жыцьцё.*
*Пра Скон.*

* * *

*Таўро на маім целе.*

*Ты бачыш — і адсланяешся.*
*— За які грэх? — пытаешся зводдаля.*
*Я ня маю, што адказаць,*
*хаця грэшны.*
*— Чыімі рукамі? —*
*У гэтых словах*
*хоць крышачку шкадаваньня.*
*І я шапчу,*
*каб ніхто, акрамя цябе, не пачуў:*
*— Рукамі вернікаў зоркі Палыну,*
*якая ўзышла над маім народам.*
*Ты чуеш — і адсланяешся.*
*— Ці ж яны магутней за твой народ?*
*ледзь вымаўляеш здаля.*
*— Яны непадсудныя майму народу, —*
*ты бачыш, як дрыжаць мае вейкі. —*
*Іх судзіцьме Пан Белабог,*
*бо людзі зьнямоглыя, —*
*кажу зьнямогла.*

*Ты адчуваеш — і адсланяешся.*
*— Што ж ён не ўратаваў*
*народ твой ад болю? —*
*разумею па вуснах,*
*покуль яшчэ магу разгледзець.*

*Я ня маю, што адказаць,*
*бо грэшны:*

*таўро на маім целе.*

**Яны сьляпыя**

*"Мы сьляпыя. Ўдаліся такімі.*
*И теперь — хоть там глаз, хоть волдырь*
*Нам бяз розьніцы. Звыкліся зь кіем.*
*да и рядом всегда поводырь.*

*Ясна, кара нам гэтая зь неба.*
*А и ту мы смогли обернуть*
*на карысьць — бо ня маем патрэбы*
*в зеркалах, отражающих суть.*

*Што нам з вашае прыгажосьці?*
*Обаяйте хоть целый мир,*
*а мы ўбачым вас, ягамосьці,*
*в том обличье, что и поводырь.*

*Нашы вочы — і ў гэтым вусьціш —*
*словно окна в домах на снос.*
*Лад жыцьця? Адназначна — вусны,*
*разве что за вычетом снов.*
*Мы сьляпыя? Найрад ці станем*
*из-за этого горевать..."*

*І сьвядома ідуць на закланьне,*
*вашу мать!..*

## Адкрыцьцё сьвятататніка

*Дзень кінецца ў адчаі пад колы цягніка,*
*апырскаўшы крывей палову неба...*

*Нядоўга барве гэтай вам вочы апякаць —*
*яна сьцячэ ўся ўадначас у небач,*
*пакінуўшы на рэйках чыгуначных адно*
*шматкі ад нечай вялікоднай песьні —*
*ці сплецены Хрыстом валошкавы вянок,*
*які ўрастае ў першатравы ўвесну,*
*ці сьпечаны матуляй і сьвенчаны пірог,*
*што сынавай няўдзячнасьцю заплесьнеў...*

* * *

*Вуж зялёны ў чырвоныя кратны*
*зьнерухомеў на сьнезе вякоў.*
*Усяго і жыцьця ў ім, што з драпіны*
*вонкі плішчыцца горкая кроў.*

*З гэткай далечы поўз, так паранены,*
*па людзкіх чарапах і касьцях!..*
*Сьледам слаўся пад хмарамі дранымі*
*пас, барвовы па белі наўсьцяж.*

*Пас, барвовы да зайздрасьці. Ворагі —*
*іншых колераў зьмеі, вужы —*
*цела, скрэмзанае суворамі,*
*цікавалі з-за кожнай мяжы.*

*Ён жа сыкаў на іх, не кусаючы,*
*ведаў мо толькі ўласную кроў.*
*Поўз, паранены так, з гэткай далечы*
*і дапоўз:*

*вунь, зялёны ў чырвоныя драпіны,*
*зьнерухомеў на сьнезе вякоў.*
*Усяго і жыцьця?..*

## Тутэйшая думка

### 1

*Я гляджу з адчайным смуткам*
*на тутэйшую зямлю:*
*колькі глебы некранутай*
*я да мары прытулю!*
*Сёньня бы сама прырода*
*месяцам гэтым шле праклён:*
*на тутэйшых агародах*
*не тутэйшы вырас лён.*
*І саміх людзей спрадвеку*
*п'е-высмоктвае іржа:*
*у тутэйшым чалавеку —*
*не тутэйшая душа.*
*Пад тутэйшым цьмяным небам*
*цьмяны дзень і цьмяны лёс. —*
*Ці ж такое мне патрэбна?*
*Дзеля гэтага я рос?*
*Ці ж аб тым сьпявала маці,*
*дні свае п'ючы нагбом*
*над калыскаю дзіцяці*
*і на полі над снапом?..*
*Хай у промнях цьмяных высяў*
*сорам выесьць сэрца мне,*
*што пра матчын сьпеў забыўся,*
*што душою патанеў.*
*І калі ня знойдзе ўтулку*
*люд тутэйшы — разам зь ім*
*я з такім адчайным смуткам*
*прытулюся да зямлі!*

### 2

*А мо я гэты боль прыдумаў?*
*Як азірнуся — чым не рай:*

*з-пад ценю гаспадарчых сумак*
*ня бачны нават небакрай.*
*Людзкія ўсьмешкі сьлепяць вочы*
*І сьлёзы шчырыя ўваччу...*
*Хай людзі іншага ня хочуць,*
*а я - інакшага хачу!*
*Ня буду годнасьць іх аспрэчваць,*
*але — кім з жыхарoў зямлі*
*да самых паўсядзенных рэчаў*
*сьвятыні зьведзены былі?*
*Якая з чалавечых нацый*
*кранула Неруш? Варвары!*
*Ім лепш натоўпам называцца*
*за зруйнаваны марна Рым!..*
*Няма, напэўна, вінаватых,*
*бо вінаватыя — усе.*
*Мы хіба толькі жалю варты*
*за страчанае пакрысе.*
*Мы звыкліся з усім Сусьветам,*
*з жыцьцём бяз мовы матчынай,*
*шануем антыквар і рэтра*
*і марнатравім спадчыну...*
*Наўкол мяне ў штодзенным гудзе,*
*бы тыя галкі на ральлі,*
*шчасьлівыя і проста людзі.*

*А мне — баліць. А мне баліць!*

**3**

*Белавежская пушча, схоў надзей і адчаю,*
*ты сьляды маіх продкаў шануй у быльлі!*
*Я параненым зьверам сябе адчуваю*
*на тваёй шматпакутнай, гаротнай зямлі.*

*Быццам кроў, што па спадчыне мне перададзена,*
*я губляю душу, але крыж свой нясу*

*і шукаю трыпутнік, ня знойдзены прадзедам,*
*каб хоць трохі суняць твой валошкавы сум.*

*Веру матчыным словам, уласнаму болю —*
*сьлепіць бельмы зласьліўцам саян Белых Веж!*
*З казкай, чутай табой у калысцы нядолі,*
*ты, няйначай, да папараць-кветкі плывеш*

*праз туман-акіян невыгойнага лёсу,*
*што адзіна пяшчоціць тваю шчырыну...*
*Твой павабны празор у аздобе калосься*
*я ніводнай манодумкай не закрану! —*

*Да тваіх каранёў пры ўсялякай нагодзе*
*прыйдуць іншыя людзі, каб шчасьце гукаць.*
*Можа, сьхіліцца нехта праз колькі стагодзьдзяў*
*сьлед і мой на сьцяжынках тваіх адшукаць.*

*Ён ня будзе пазначаны нечым нязвычным —*
*я жыву, як увесь мною выбраны сьвет.*
*Толькі бедаў сабе трохі болей назычыў*
*і па шчасьці сваім гараваў неўпрыкмет...*

*Белавежская пушча, мне баляць твае раны,*
*працінае наскрозь веліч вечных надзей.*
*Я на гэтай зямлі гэтым сьветам абраны*
*адстагнаць і адшчасьціць мінулы твой дзень.*

**В о ў к**

**4**

*Я стаміўся за ноч.*
*Выць хочацца ад крыўды і голаду:*
*да ведама шнырыў па тутэйшым лесе —*
*І хоць бы кавалак жывога!*
*Здаецца,*
*больш ня ўстаць мне з-пад гэтай яліны.*
*Нямашака моцы нават выпаўзьці*
*пад сьцюдзёныя промні ўзыходзячага сонца...*

*Але — што гэта?*
*Трэба ўзьняцца,*
*прыслухацца, прынюхацца:*
*чый гэта брэх?*
*Чые цьмяныя постаці?*
*Чый агідны дух паўзе над сьнежным покрывам?*
*І гэты раптоўны нясьцерпны боль — адкуль?*
*Я спалохана кідаюся ўбок,*
*вішчу, як апошняе шчанё,*
*ды ўтрапёна ўзіраюся ў колер уласнай крыві,*
*Ўпершыню.*

*Я памятаю:*
*так паміраў мой бацька!*
*Кроў плішчылася зь ягоных грудзей*
*і амаль адразу*
*застывала на траве ля нашага логава.*
*Мы,*
*тады ледзь глядзелыя на сьвет ваўчаняты,*
*і Ваўчыца,*
*і сам Стары Воўк*
*з гэткім жахам залізвалі тую шчылінку*
*на бацькавых грудзёх,*
*але дарма...*

*Зараз — не да раны.*
*Я бягу,*
*пакідаючы на сьнезе гарачыя кроплі —*
*чырвоныя лахмоцьці свайго жыцьця.*
*Я ратуюся ад вас,*
*людзі,*
*ад невыноснага сабачага ляманту і выцьця,*
*І не магу ўратавацца —*
*усюды,*
*куды ні паткнуся,*
*натыкаюся на чырвоныя лахманы*
*чыйгосьці жыцьця.*
*Мне нельга пераадолець,*
*нельга пераступіць праз кроў продкаў маіх,*
*якой афарбавалі вы шматкі ануч,*
*разьвешаныя па ўсім сьвеце.*

*Я схаваюся зараз,*
*зьнерухомею за кустом*
*і, калі адзін з вас наблізіцца,*
*скокну да ягонага горла,*
*разарву яго сваімі кіпцюрамі!*
*Помста, бязьлітаснасьць, жорсткасьць —*
*адзінае выйсьце.*
*Хай мяне чакае сьмерць,*
*хай і мая кроў*
*афарбуе анучы і рукі аднаму з вас —*
*я гатовы памерці,*
*калі мае іклы*
*ачырвоніць вашая кроў, людзі...*

*Магчыма,*
*я пасьпею згледзець,*
*што мы з вамі адной крыві.*

**5**

*Я і Сусьвет — мы неўзаемныя:*

*яму ніякай справы да мяне,*
*а я аддана шчэруся знаўкола...*

**6**

*Вы кажаце, я выю воўкам?*
*А я нат у выцьці сваім сьмяюся*
*над неачалавечаным натоўпам,*
*які мяне па-воўчы выць прымусіў.*

*Увесь Сусьвет — маладзіком уверсе.*
*Я зь ім сустрэўся зноўку — вусны ў вусны.*
*І гэткі боль шчыміць у нашых сэрцах! —*
*а я нат у выцьці сваім сьмяюся.*

*Увесь Сусьвет — шматок майго настрою:*
*пілілаўка. Пустэча. Неруш. Немач.*
*Над неачалавечаным сабою*
*я, сьмеючыся нават, выю нема.*

**Даўжыні**

**7**

*Я зашмат ад жыцьця хацеў.*
*І — як вынік — ня меў нічога,*
*быццам у прадоньне ляцеў*
*доўга.*
*Доўга*
*гэтай думцы на пройме трымцець,*
*бо ж усё-ткі шкада былога. —*
*Я зашмат ад жыцьця хацеў.*

**8**

*Гаворыш, а словы твае ні аб чым,*
*і мары мае аж заходзяцца жалем!*
*Я іх ад цябе надалей не хаваю —*
*шпурляю ў маўклівых вачэй далячынь.*

*Ні рэха ў адказ — ані сьмех, ні адчай.*
*Адно, як у студні, там сьвецяцца зоркі.*
*Астатняе — цемрадзь. Глыбока. І золка.*
*І толькі — ў тваіх невымерных вачах.*

*Золь плішчыцца вонкі, што моцы стае,*
*распальвае розум і сэрца халоніць...*
*І там, у нязьведаным покуль прадоньні,*
*губляюцца дзёрзкія мары мае.*

**9**

*Мне дзяўчына чытае вершы.*
*Вершы існыя, як жыцьцё.*
*І гучаць яе словы першым*
*неастуджаным пачуцьцём.*

*На асьмяглых ад болю вуснах,*

*у натоленых шчасьцем вачах*
*вершы гэтак шчыра сьмяюцца*
*і аб гэткім таемным маучаць!..*

*Хай душа яе зноў сваволіць.*
*Я ж дагэтуль сваю наталіў —*
*мне хапае і ўласнага болю*
*ды шчасьлівых калісьці хвілін.*

*Я ўчапіўся за іх аберуч,*
*дасягоньня таюся між іх...*
*Ты даруй мне, дзяўчына, неруш*
*і пачуцьцяў, і мар маіх.*

*Ты ня руш, бо дарма. Няхай мне*
*дзень былы толіць мроі цяпер —*
*я ж тваё шаную каханьне*
*і хаваю ў сабе свой верш...*

**Маёй ноччу**

**10**

*Выбягаю, расхлістаны, зь інтэрнату:*
*вонкі з гэтых абрыдлых сьцен,*
*зь дзён, ад рогату-плачу стракатых,*
*пад начны спадарожны цень!*
*У трамвай пасьпяваю ўскочыць*
*і ў зьнямозе — ілбом да шкла —*
*пазіраю ва ўласныя вочы,*
*болем выцмыганыя датла.*
*Дойга колам па рэйках ляскаць,*
*церушыцца адчаю імжой...*

*Гэта ноч, што павінна быць наскай,*
*я хачу, каб была маёй.*
*А таму на апошнім прыпынку*
*выйду ў ноч. І ня згледжу няхай,*
*як па вулічным цьмяным пустынку*
*прагрукоча апошні трамвай.*
*Да скарынкі зямлі — асфальту*
*ціш прыцісьне мае сьляды.*
*Мне адсюль да нядаўняй хаты*
*мо з гадзіну ўсяго хады.*

*Але я не пайду. Павошта?*
*Між пустэчу ахутаўшых сьцен*
*я занадта вялікім коштам*
*там плаціў за ўсялякі дзень.*
*Што вяртацца? Я згодзен цалкам*
*з наваражаным для мяне.*
*Сяду дзесь на астылую лаўку,*
*скурчу думкі яшчэ цясьней.*
*Да віднога ніхто не абудзіць*
*вершаваных пачуцьцяў радкі...*
*Хто па мне непакоіцца будзе?!*

*Я таксама — ані па кім.*
*Мне таксама нікога ня трэба.*
*О, спакуса маіх адзінот!*
*Я вачамі памкнуся да неба,*
*да напоўненых зоркамі сот:*
*мо адна зь іх апошні раз блісьне,*
*ціха скоціцца ў нікуды.*
*Я ж прыкмечу — і ненаўмысна*
*пажадаю сабе бяды.*
*Так, бяды. Гэта мой паратунак,*
*гэта мой пажыцьцёвы кудмень.*
*За дзярзоту надзей і думак*
*ёю плаціць мне кожны дзень.*

*Хай абранаю мною ноччу*
*золка, скрушна — трывай не трывай!*
*я бягу. Пасьпяваю ўскочыць*
*у бязьлюдны апошні трамвай.*

**11**

*Гукаю шчасьце.*
*У адказ — ні слова.*
*І дзе яно сягодня?*
*Як знайсьці?*
*Былыя дні — ня болей, чым прадмова*
*да нечага вялікага ў жыцьці.*

*Гукаю шчасьце.*
*На мяне злуюцца,*
*зь мяне сьмяюцца...*
*Годзе ім ужо!*
*Я сам сабе павінен адгукнуцца,*
*абы яны прачнуліся душой.*

*Гукаю шчасьце —*
*быццам сьвятадзею,*
*пакуль яшчэ ня здолеў ачарсьцьвець.*

*А мне карціць апошнюю надзею*
*нарэшце выкрычаць у сьвет.*

**12**

*Маўчыш. Душа — нібы лядо.*
*І я маўчу. Абапал — золак*
*хавае бляск апошніх зорак:*
*маўчыш. Душа — нібы лядо.*
*Сусьвет зьнямог за ноч ад болек,*
*цярушыцца між нас нудой —*
*маўчыш. Душа — нібы лядо,*
*і я маўчу. Абапал — золак.*

**Мой дзень твайго анёла**

**13**

*Я шукаю апошнія ружы.*
*Ашукаю нарэшце дзень і*
*паспрабую ў сабе адужаць*
*надзеі.*

*Я таіў іх, як мог, уроспадзь,*
*ад сваіх і людзкіх насьмешак,*
*а сягоньня... хай ружы роспач*
*суцешаць.*

*Гэты дзень меўся быць шчасьлівым,*
*да сябе мяне клікаў зычна...*
*Толькі іншае лёс дашклівы*
*назычыў:*
*я трымаю апошнія ружы.*

*Я стрымаю ружова-калючы*
*сьмех. Нішто сабе, толькі дужа*
*балюча.*

**14**

*Сэрца мае палоніць*
*чырвань апошніх руж.*
*Вочы схаваю ў далонях,*
*мары ў адну зьбяру —*
*моўчкі ўва мне няхай лепш*
*высахне са сьлязьмі:*
*ведаю — не кахаеш.*
*Дык хоць ружы вазьмі.*
*І не зважай, што крывавяць*
*дзіды мне пачуцьцё —*
*гэта на доўгую памяць.*
*Гэта на ўсе жыцьцё...*

**15**

*"Як ня хочацца мне пакідаць гэты дзень!*
*Ён адзін — бы прыкметнае ў цемры.*
*Я іхшоў да яго, як на плаху ідзе*
*кожны, хто ў сваю зорку паверыў.*
*Хай жа зьведаў адну толькі слодыч — надзей,*
*хай растраціў былую упартасьць —*
*як ня хочацца мне пакідаць гэты дзень!.." —*
*я падумаў, ступаючы ў заўтра.*

***

*Кладзецца зер пачуцьцяў паўз царкву.*
*Хістае вецер думкі, быццам гольле...*
*Мы, пэўна, не сустрэнемся ніколі,*
*ня ведацьмем, калі насіць карву.*

*Мы, пэўна, не сустрэнемся нідзе.*
*Што перад будучыняй гэная мінута? —*
*А не суняць, а не суцішыць смутак*
*няўрымсьлівымі зданямі надзей.*

*А не суняць, а не суцішыць боль!*
*Шматкі душы трымцяць на пройме жалю.*
*...Даруй мне ўсё. Я зараз ад'язджаю,*
*даруй мяне. І апраўдай — сабой.*

**Удзень,**
**калі цьвіла вада на рацэ Вялікай**

*...Быў звычны дзень. Вялікая-рака*
*імкнулася ў вялікія азёры.*
*І я змагаўся зь ёю — як мага, —*
*і, як належнае, прымаў яе пакору,*
*пакуль ня зґледзеў бездань пад сабою.*

*О, што я ўбачыў там, на берагах,*
*калі мяне ўзьняло на хвалі болю!*

*О, што я ўбачыў! — і на берагах*
*адчай людзей вартуе штохвіліны..:*
*быў звычны дзень. Жыцьцёвая рака*
*камусьці плыць давала супраць плыні.*

* * *

*Што ты ходзіш за мной, мой ценю,*
*ясны дзень у дзень крок у крок,*
*хіба ж мала зьвяроў на сьвеце*
*і дарог?*
*Я нічым за астатніх ня лепшы,*
*нездарма абзывалі ўсяляк —*
*што, маўляў, дзікаваты і шкодны я*
*ваўкалак.*
*Ці ж запэцкаю сэрца крыўдай?*
*Барані мяне іхні бог!*
*Хай ня помста мая іх стрэне,*
*а любоў.*

---

*А любоў*
*мая помсту іхнюю стрэне.*
*Богам ці ж адбаронішся? —*
*Абаб'еш толькі лоб і калені.*
*Ваўкалак*
*хай сабе дзікаваты і шкодны я*
*(нездарма мяне ганьбілі*
*тыя, лепшых мянушак годныя).*
*Ды дарог*
*хіба ж мала зьвярам на сьвеце?..*
*Цьмяны дзень у дзень сьлед у сьлед,*
*ценю мой, не бадзяйся дзесьці.*

**Наўрад ці**

*...А тыя, што са мной ішлі, далёка.*
*Пакуль я вершаваў пра іх радкі,*
*пакінулі — разбуўшыся, бяз крокаў.*
*І вось — адзін. Перада мною — крокаць*
*(а, зрэшты, цьвёрды грунт пад кім?).*
*Якую мару абчасаць пад кій? —*
*Ня вельмі каб, а ўсё б у шлях палёгка.*

---

*Ня вельмі каб, аднак усё ж нялёгка*
*былую мару абчасаць пад кій...*
*Дарэчы, цьвёрды грунт — пад кім,*
*калі перада мною — толькі крокаць?*
*Пад тымі, што, разбутыя, бяз крокаў,*
*пакуль я вершаваў пра іх радкі,*
*употай ад мяне пайшлі далёка?*

**Наўрад ці**

## Толькі казка

*Казка сівога ліпеня —*
*наша каханьне, бо*
*ты мае вусны выпіла,*
*я — твой апошні боль.*
*Ты мае сны натольваеш*
*шчасьцем, бы творыш зьдзек, —*
*ноч, як правіла, большае,*
*калі меншае дзень.*
*Сэрца адчаем выцяушы,*
*сьнішся яшчэ і яшчэ...*
*Ты мае вершы высушы!*
*Сьлёзы — хай для вачэй.*
*Мары, якой ты здрадзіла,*
*досыць было на ўсхліп*
*па днях, снамі раскрадзеных.*
*Сёньня ж усё перайначыцца:*
*рукі кладу на вуглі.*
*Як ні баліць — не плачацца*

---

*А не баліць — дык плачацца.*
*Рукамі студжу вуглі.*
*Сёньня ўсе перайначыцца:*
*дзён, намі раскрадзеных,*
*досыць будзе на ўсхліп*
*па мары, якой ты здрадзіла.*
*Сьлёзы сваіх вачэй*
*ты маім вершам высушы,*
*сьніся яшчэ і яшчэ...*
*Сэрца адчайна выцяўшы,*
*меншае новы дзень.*
*Ноч, адпаведна, большае.*
*Шчасьце на твары — зьдзек?*
*Ты мае сны натольваеш,*
*я — твой апошні боль.*

*А мае вёсны выпіла*
*наша каханьне, бо*
*казка сівога ліпеня —*

**толькі казка**

## Раніца

*Паабтрэсаў гарэзьнік-вецер*
*бобкі зор зь нябачных галін.*
*На сухое, напэўна, вецьце, —*
*вунь як неба край падпаліў.*

## Дзень

*разьдзірае мяне кіпцюрамі справў*
*я крычу, але крык мой*
*надта слабы, каб крануць космас*
*космас жа надта малы,*
*каб абразіць мяне*
*сваей абыякавасьцю*

## Вечар

*перакуліў неба, як глечык,*
*выпіў увесь блакіт*
*і малюе пэндзьлямі сьвечак*
*зоркі на дне ракі.*

## Ноч

*Распусьцілася кветка ночы,*
*пад сваімі пялёсткамі*
*пахавала палі і плошчы.*
*А што дзідамі вострымі*
*пакалола далоні неба —*
*так яму, небараку, й трэба.*

* * *

*Рой зорак узьвіўся зь нябачнага вулею*

* * *

*Я ў Вашых руках — быццам гліна, о Іна*

* * *

*Ноч тым цямнейшая, чым болей ліхтароў*

* * *

*Паліцы жыцьця застаўлены кнігамі дзён*

* * *

*Дарога доўгая, бо думкі даўкія*

* * *

*Гора — быццам кроў — згортваецца*

* * *

*Празрыстасьць душ ёсьць іх прыкмета*

* * *

*Трухлеюць вёскі, бо шырацца клады*

* * *

*Ноч замінае толькі тым, хто не ўлюбёны*

* * *

*Лебедзь тваёй рукі ловіць з вуснаў маіх пацалункі*

* * *

*Каханьне ёсьць узьлёт вышэй няма*

* * *

*Дзякуй Богу, што мы супалі па часе*

* * *

*Галіны балюча стукаюць па вокнах.*
*— Хто там? — твар да халоднае шыбы,*
*толькі сэрца падманеш хіба? —*
*Ноч і дождж. Цёмна і мокра.*

* * *

*«Я чакаць не магу, не хачу і ня умею!» —*
*апякло, быццам вуглем з чужога вагню,*
*а на вуснах — прысуд выпадковаму дню:*
*«Ты ня зможаш мяне дачакацца — ня ўмееш...»*

* * *

*...І апошнія кроплі надзей*
*высыхаюць пад промнямі прыкрасьці:*
*дзе праходзіць жыцьцяпадзел*
*паміж шчодрасьцю й шчырасьцю?*

* * *

*Я з кожнай стрэчай больш і больш*
*цябе ахопліваю сэрцам,*
*і шчасьцю там хапіла б месца,*
*калі б ня твой нязгойны боль...*

* * *

*Баліць, смыліць нутро... Навошта?*
*І як на жаль бясконцы сіл стае? —*
*Ліст за лістом штодня прыносіць пошта.*
*Ліст за лістом штодня — не ад яе.*

* * *

*Пішу. А для каго?*
*Лічу, што для багоў.*
*А на думку Бога —*
*для сябе самога.*

* * *

*Сэрца недаедзены акраец*
*млосна хутаецца ў зрэб'е ночы:*
*— Гляньце, зорка дагарае!*
*Колькі болю і адчаю ў небе!..*

* * *

*Я і ў вершах сваіх не знаходжу такою,*
*сэрца крыкам заходзіцца — вусны маучаць:*
*што з табою было? Як ты стала такою,*
*каб караць і каб літаваць — у адначас?*

* * *

*Што ні дзень — то горшы.—*
*Дагарае зьніч.*
*А каханьняў, як у бедных грошай,*
*не хапае, колькі ні пазыч...*

* * *

*Неаглядная золь у бязьмежным блакіце*
*хай астудзіць сусьвет і пазбавіць сьвятла!*
*Людзі, ляжце, засьніце.*
*Так ад вас меней зла.*

* * *

*Старыя*
*(лёс!)*
*губляюць дні ў мінулых мрыях —*
*шкада калісь нявыплаканых сьлёз.*

* * *

*Праводжу новы дзень. Бяз жалю,*
*нібы якісьці таварняк.*
*І мы ня раз вось гэтак ад'язджалі,*
*Бо нас праводзілі — вось так...*

* * *

*Усё аддам — надзеі, грошы, волю.*
*Каханьне, вершы, хлеб — усё раздам.*
*Радзіму ж — нізавошта аніколі*
*ні сільнікам, ні жабракам.*

* * *

*Між чужакоў ці ў роднай хаце,*
*ствараючы дабро ці зло,*
*ахвота верыць у былое шчасьце...*
*Яно тады і шчасьце, як прайшло.*

* * *

*Дням, бы льду, пад пальцамі крышыцца,*
*на чыесь галовы церушыцца...*
*Толькі сьмерць, нястомны рэвізор,*
*можа супыніць гэты разор.*

* * *

*Падацьме дождж на гэтыя кветкі,*
*сонейка лашчыцьме — клопат які!*
*Толькі дарэмны — гругане, у сьведкі,*
*што не ўрастаюць у глебу вянкі...*

* * *

*О, мой лёс, айчым з чужога краю,*
*не кранай мне зычаны пасад:*
*я і так канодумкі губляю.*
*Дзень наперад — быццам два назад.*

* * *

*Выстудзіў сэрца, ледзякі рук чужых*
*грэючы сваім дыханьнем...*
*Баліць?*
*Хай сабе. Хай мне!*

**Эпітафія выбарам**

*байка*

*Нейк на адным двары*
*сабраліся зьвяры,*
*ці — больш да праўды — хатняя жывёла.*
*Бо ўчулі, што ў дварох наўкола*
*кіруе выбарны Савет.*

*— І мы ж пасёмся на траве! —*
*Зьвярнуўся да авечак іх баран. —*
*І мы ж прыносім малако гаспадарам*
*амаль дарэмна —*
*за бярэмя*
*сена.*
*Дык хіба ж мы ня дэмас?*
*Даеш Саветы!*
*(Апладысьменты ).*

*Пасьля такой прамовы*
*прынцыповай*
*і выбралі зьвяры ў Савет —*
*як павялося,*
*аднагалосна,*
*амаль бяз спрэчак —*
*дзьвюх-трох авечак,*
*каб, значыцца, яны маглі іх інтарэс абараняць.*
*А старшынёй абралі барана:*
*маўляў, калі такі*
*ён гаваркі —*
*яму й размахваць сьцягам...*

*І вось Савет, узброены адвагай,*
*каб заявіць свае правы*
*на выбар пойла і травы,*
*ідзе ў гаспадарову хату*
*і выкладае ультыматум:*

*або дазволь перабудоўку,*
*або абвесьцім галадоўку!*

*— Ну, што ж, — згадзіўся гаспадар, —*
*я дэмакратыю вам дам. —*
*І поплаў — той, дзе пасьвяць статак, —*
*ён падзяліў на восем частак.*
*Ці мо на болей? Поплаў, зрэшты,*
*ад гэтага ня стаў шырэйшы.*
*Але Савет быў вельмі рады —*
*маўляў, гаспадару даў рады*
*і ўзяў пад свой капыт уладу.*

*Цяпер штодня ў жывёл парада:*
*які загон абраць пад пашу,*
*які — пакінуць сенажаткам...*
*Аднак пастух і нат падпасак*
*ані ня лічацца са статкам.*
*А што Савет? — Прыціх, ні слова,*
*калі па бізуну ў абодвух,*
*ня схочаш і перабудову.*

* * *

*Не, ня веру, што сустрэч ня будзе,*
*што жыцьцё навек нас разьвядзе*
*і мяне сьвітанак не абудзіць*
*промнямі няўрымсьлівых надзей.*

*Адмаўляюся ад дзён мінулых,*
*што былі пражыты безь цябе.*
*Ты падслухай толькі сэрцам чулым,*
*як у шчасьце веру я цяпер!*

*Дык пакліч з сабою — і адразу*
*я згаджуся на бясконцы шлях,*
*толькі б ведаць, што са мною разам*
*Ты па невядомы дзень ішла б.*

* * *

*Ты мяне вінаваціш ізноў,*
*называеш мяне самалюбцам,*
*а з-пад ценю абураных слоў*
*думкі гэтак шчасьліва сьмяюцца.*

*Ты крыўдуеш? — Такое бяды!*
*бо напэўна сама адчуваеш:*
*я ж сябе люблю толькі тады,*
*калі ты мяне моцна кахаеш...*

* * *

*Усе было гэтак падобна на сон:*
*Ты*
*ўсьміхалася — мне!..*
*Твая шчасьлівая ўсьмешка*
*клікала мяне далека-далека — да нашай зоркі.*
*Я не стрымаўся,*
*кінуўся насустрач*
*і адчуў,*
*што некуды падаю...*

> *Пазьней мне скажуць,*
> *што я ўсьміхаўся ў сьне,*
> *і будуць пытацца:*
> *— Чаму?*

*...Я адчуў,*
*што некуды падаю —*
*доўга-доўга, павольна-павольна,*
*зажмурыўшы вочы ад выпадковага шчасьця*
*і страху, —*
*і прачнуўся, ўсьміхаючыся...*

> *Я спытаў сябе:*
> *чаму?*
> *Мо таму,*
> *што гэтак рэдка*
> *выпадае сьмяяцца ў жыцьці?*

*...І выйшаў з хаты.*
*Адразу спавіты ноччу,*
*ахутаны небывалай цішынёй Сусьвету,*
*ступіў крок у цемень*
*і спыніўся. — Далёка-далёка да нашай зоркі.*
*Усё было гэтак падобна на жыцьцё!*

## Першы санет

*Якое сонца па-над майскім садам,*
*што бачыў на вяку сваім усё —*
*і месяца цудоўнае ліцьцё,*
*і шчодрыя на краскі зоркапады!*

*Як далікатна сьцелюцца прамені,*
*як прагна кветкі цягнуцца да сонца —*
*усёй сваёй істотаю, бясконца!*
*Але дарэмны гэтыя памкненьні.*

*О, я разгледзеў у праменях праўду:*
*жывеш — жыві: зласыч або кахай,*
*зальле цябе раптоўным шчасьцем хай —*
*якое сонца па-над майскім садам!*

*І так — спрадвеку, так — да скону плоці:*
*ніколі не спасьцігнеш прыгажосьці.*

* * *

*Я заракуся больш кахаць.*
*Клянуся люду:*
*па прыгажосьці уздыхаць*
*ані ня буду.*
*Даруйце шчасьце дзён былых,*
*даруйце сьлёзы —*
*яны апошнімі былі*
*на той дарозе.*
*Сыду зь яе, сыду зусім*
*у каляіну —*
*хай застаецца вам усім,*
*а я - пакіну.*
*Адмоўлю сэрца палкі стук.*
*Паверце, людзі —*
*цяпер ягоны клічны гук*
*нячутным будзе.*
*Схаваю сам пяшчоту слоў*
*і пацалункаў*
*у сэрцы, быццам пад вузлом*
*нашчадных клункаў.*
*Адчайным марам у адказ,*
*клянуся люду:*
*вось дакахаю гэты раз —*
*І больш ня буду.*

* * *

*На сьвітаньні прачнуся спалохана*
*і з трывогай убачу, што з хмар*
*зноў шпурляе дождж кроплі па вокнах,*
*быццам сьмехам шчасьлівым у твар.*

*І ўзгадаю, што пад навальніцамі*
*засталіся ляжаць гвазьдзікі,*
*каб удосталя шчасьця напіцца*
*з мной яшчэ не адкрытай ракі.*

*Да дзьвярэй незачыненых кінуся,*
*паімчуся пад дождж стрымгалоў,*
*на імгненьне да мар былых вырвуся,*
*дакрануся да шчасьця — і зноў:*

*перш убачу, пасьля — зразумею:*
*прыгажосьць жа ня ўмее чакаць —*
*дзе цьвілі гвазьдзікамі надзеі,*
*там тры белых пялёсткі маўчаць...*

*Гэта, пэўна, жыцьцём наваражана*
*ўсім, хто шчасьце трымаў пад плашчом —*
*кожны дзень прачынацца ўстрывожаным*
*і гадамі стаяць пад дажджом.*

*...Зноў спакусьлівы жаль ахінае,*
*зноў шчымлівая радасьць з краёў —*
*я ужо ні на што не зьмяняю*
*адзінокае шчасьце сваё.*

*Я ня зьведаю болей спакою,*
*я ня зьведаю большай бяды —*
*ты заўжды застанешся сьвятою,*
*колькі б я ні пабачыў сьвятынь...*

**Парушальнікі немачы**

*верш у прозе*

*Золак. Ранішняе сонца за густым туманом — бы камяк расчыненага цеста. Цішыня настылага за ноч лесу. І раптам апошняй кропляй шчырасьці зь нейчых грудзей — адчайны крык:*

*— Каханая!*

*А ў адказ — памножаная рэхам радасьць:*

*— Я тут, каханы!*

*Трэск ламачча пад нейчымі нагамі, у нечый твар — раса з нанізаных на нізкія галіны лістоў. Задыхаючыся ад надзей, нехта кінецца да нейчых ног і будзе цалаваць хі, пазьбіваныя аб карэньні лясных сьцяжын...*

*Пазьней абодва, стаміўшыся не глядзець адзін адной у вочы, разыйдуцца. — Узаемнай адзіноты вельмі мала для ўзаемнага каханьня.*

*Але на золку ў настылым лесе ўсё таму ж адчайнаму клічу сьвятататнічаць на цьвінтары немачы!*

**Нейкая казка-блюз**

*Аднойчы я цябе прыдумаў,*
*аднойчы я цябе сасьніў —*
*і вочы, што імглеюць сумам,*
*і вусны колеру суніц,*
*і трапяткую ружу сэрца,*
*і чорных валасоў павой...*
*Калі ня хочаш мне сустрэцца*
*дык мроіць пра цябе дазволь.*
*У нейкай з казак Беларусі —*
*я ведаю — ты мусіш быць*
*і марыць пра каханьне мусіш.*
*А ў ім — і шчасьцейка набыць.*

*Тады чаму табе ня сьнюся?*

*Аднойчы ты мяне прыдумай,*
*аднойчы ты мяне прысьні —*
*І вочы, што імглеюць сумам,*
*і вусны колеру суніц,*
*і трапяткую ружу сэрца,*
*і чорных валасоў павой...*
*Я здолею табе сустрэцца,*
*адно час марай запаволь.*
*У нейкай зь беларускіх казак*
*я ведаю — там разам быць:*
*ці бэрхацца ў каханьні разам,*
*ці разам адысьці ў нябыт.*

*А шчасьцейка — не абавязак.*

**I.I.**

*Ў краіне гэтай, зусім чужынскай,*
*што лашчыцца да падножжа Альпаў,*
*я так сумую па нашым Мінску,*
*па нашай роднай Рутэні Альба!*
*Я так сумую па нашых стрэчах!*
*І ў снах забэрхаўшыся, штоночы*
*шукаю ў альпаўскай той сінечы*
*блакіту Вашых анёльскіх вочак.*
*Яшчэ, напэўна, нам будзе шчасьце,*
*але за дні расстаньняга болю,*
*баюся, раптам мы нешта страцім*
*ці напаткаем чужую долю.*
*Адна спадзеўка: як існы вернік,*
*замольваю, быццам грэх, расстаньні:*

*хай дасьць Вам Божа Каханьне й Вернасьць,*
*а мне даручыць Ваш лёс астатні...*

* * *

*Englische Garten[1],*
*Englische Garten, —*
*думкі тасуеш мае, быццам карты.*
*Думкі тасуеш, а не здаеш,*
*быццам казырныя, быццам свае.*
*Толькі адной завалодаць ня можаш,*
*хай сабе нават па літасьці Божай:*
*думкаю пра беларусачку Іну.*
*Ой, дачакаешся, прыйдзе часта, —*
*курчыцца будуць deine сьцяжынкі*
*ды пад абцасікам Інінай Інкі.*
*Мне, браце, можаш паверыць тым часам —*
*я ўжо з паўгода пад ейным абцасам...*

[1] "Англійскі сад" (ням.) — буйнейшы гарадзкі парк у Мюнхене, Германія.

* * *

*Мой дзень яшчэ не стаў тваім.*
*І я зьляпіць спрабую сьнежку*
*з хвілін —*
*але няўдала нешта...*

*І меней застаецца дня,*
*чым нашай веры ў нашу вечнасьць.*

* * *

*Big Ben[2], і перад ім пляц повен,*
*людзей — як у гадзіну пік.*
*Але што б горад гэты мовіў,*
*калі Ben стаў бы not so big?!*

[2] "Вялікі Бэн" (англ.) — лонданская славутасьць, знакамітая вежа над будынкам брытанскага парламенту

**Беларусам**
**на 71-я ўгодкі Саюзу**

*Ні волі, ні долі.*
*І слова "няма" —*
*Як нота для роспач-мелодыі.*
*Увесь наш набытак — якісь дыямат...*
*Тому, можа, й мат, што галодныя.*

**Юрку Сянькоўскаму**

*...І напіліся. За Радзіму, кажаш?*
*Якая ёй, даруй, з таго карысьць?*
*Мы для Яе — байструцкіх жыцьцяў цяжар,*
*я, малады, і ты, стары.*

**Бахчысарайскі фантан**
**15 жніўня 1991 года**

*Кроплю з фантану сьлёз*
*спрабую на смак.*

*Салёная, быццам цела тваё,*
*сатканае на калаўроце хваляў Чорнага мора.*

*Тут Пушкін ня ведаў меры,*
*кроплю ў бурлівым ручаі раствары́ў.*
*Хіба ж магчыма праз столькі гадоў*
*згледзець яе ў плыні?*

*Да болю ўзіраюся,*
*аж раптам:*

*Солана. Чорна ў вачох ад сьлёз.*
*Ханскіх?*

**Бахчысарайскі фантан**
**Замест страчанага**

*Павольна ступаем,*
*не спалохаўшы цень паланянкі:*
*па кіліме крокі нячутныя.*
*Аж млосна чакаць,*
*покуль скоціцца долу сьлязінка —*
*празь вякі шлях далёкі...*

*Тут Пушкін ня ведаў меры,*
*кроплю ў бурлівым ручаі растварыў:*
*мурыну вады — чым болей.*
*Ці ж згледзець яе ў хуткацечнай плыні?!.*
*Вочы баляць узірацца.*
*Аж раптам:*

*Тыраніі Тваёй Прыгажосьці нямашака межаў!*

**Тры музы,
падуладныя зіме,
і чацьвёртая — мне**

*І.Л.*

*Бы палатно на мальбэрце,
леглі на горад сьнягі.
Гэта за фарбы бярэцца
Сьнежань Ваш дваццаць другі.
Кропка — мадэль Сусьвету.
Рыска — і вось ён, я.*

*Вашы тым часам партрэты
малююцца спакваля.
Затое пасьля як іскрацца
ў танцы сьняжынкі ля Вас!*

*Сьнежань, якому за дваццаць,
усё ж мастак маляваць:
як тонка выпісвае стан Ваш,
як правільна цені кладзе! —
Ўздымае сваім мастацтвам
віхуру маіх надзей.*

*Яна ўвесь горад агорне,
сьпявацьме ў Ваш гонар гімн...*

*Сьнежань дваццаць другі
круціць пачуцьцяў жорны.*

*Ісьціны горкі смак:
мельнік ён, а не мастак.*

## Радкі,
## што засталіся ў нататніку

*Вецер усіх падмане —*
*сьціхне, нібы пакіне:*
*яснавяльможная пані*
*йдзе па кіліме.*

*Ноч на дыбачкі стане,*
*зор назьбірае жменю —*
*яснавяльможная пані*
*сядзе ля тога агменю.*

*Гэта — ня сон-насланьне,*
*гэта — дзея маленьня:*
*яснавяльможная пані,*
*я перад ёй на каленях:*

*— Думкі пра Вас — сутана.*
*Зьніч Ваш — мая сьвятыня,*
*яснавяльможная панна,*
*хаты маёй гаспадыня.*

*Верш мой ані ня маніць, —*
*хіба ж пачуцьці хлусяць?*
*Яснавяльможная пані,*
*пані маёй Беларусі.*

*Мары, стрэчы, расстаньні —*
*наканавана гэтак,*
*яснавяльможная пані,*
*пані майго Сусьвету.*

*Лёс Ваш — нібы нататнік,*
*я ў ім — верш пра каханьне...*

*Яснавяльможная пані,*
*выкрасьліце астатніх.*

**Валодзю Чарнякову**
**ў апошні дзень перад войскам**

*Няхай трымціць у промнях ранак*
*і, як бывае па вясьне,*
*хай гоіць сонца тыя раны,*
*што мелі мучыць нас пазьней.*

*Ды перш чым выйсьці за парогі*
*і рушыць сьмела удалячынь,*
*давай прысядзем — на дарогу —*
*і — на сустрэчу — памаўчым.*

*Наперадзе — гады, не хвілі,*
*рыхтуюць нам сіло падзей...*
*Пакуль стае на роспач сілы,*
*хавай у сэрцы гэты дзень.*

*Зірні за шкло свайго вагона,*
*запомні кожны рух хутчэй —*
*сяброўскі сьмех, вакзальны гоман*
*І смутак матчыных вачэй.*

*Мы пройдзем шмат дарог і сьцежак,*
*у хвілях зьлічым два гады,*
*адслужым годна, як належыць,*
*І зноў сустрэнемся тады.*

*Зь сябрамі на кватэры нейчай*
*удзень, увечар ці ўначы*
*мы вып'ем, браце, за сустрэчу*
*і аб дарозе памаўчым.*

**Квазімода — Эсьмеральдзе**

*Слухайце,*
*у сабора — высокія вежы.*
*Зь іх упаўшы, і самы спрытнейшы*
*мо душу аддасьць Богу раней, чым*
*дакранецца,а да маставой.*

*Слухайце,*
*калі Вам будзе трэба на карту*
*сьмерць чыю — зараз ці можа заўтра,*
*я, для пекла і рая нyварты,*
*зразу кінуся ўніз галавой.*

*Слухайце,*
*нельга мне заставацца тут доўга.*
*Нас абодвух засьпела аблога:*
*прыгажосць і пачварства — ад Бога,*
*іх ні ўкрасьці, ні вымаліць.*

*Слухайце,*
*хай сабе і нямоглы калека,*
*я падобны на чалавека!*
*Я спазнаю — дарма, што ня лекар, —*
*што ўва мне гэтак моцна баліць!*

*Слухайце...*

**Сяргею Ясеніну**

*Лепіць зь цемры жудасныя цені*
*страх, што сьвет ад страхаў зьбервянеў.*
*Сумна безь цябе, Сяргей Ясенін,*
*па сьсівелай "от страстей" вясьне.*
*Надакучыла зубамі лёсу*
*грызьці мар сваіх счарсьцьвелы хлеб.*
*На душы — пачуцьці пылным стосам.*
*Роспач — хоць пад абразамі кленч...*

**Канодумка Кастуся Каліноўскага**

*Як варта піць і ваяваць — дык адно за наскі край,*
*зьнявечаны, зьняважаны панаваньнем прышлых*
*зграй.*

*Хай,*
*хай апошнім будзе год няволь!*
*Узьнімай*
*над Радзімай бел-чырвону-бель!*
*Суцяшай*
*сьвентай помстаю нязгойны боль свой!*
*Гэй, гэй, гэй, дзецюкі,*
*до' зьбіраць медзякі! —*
*Свабоду не купіць!*
*Гэй, гэй, гэй, дзецюкі,*
*лёс нам выпаў такі —*
*пара трымаць іспыт.*

*Іспыт на права называць сябе й сваіх дзяцей*
*імёнамі гаспадароў, а не рабоў ці гасьцей.*
*Хай,*
*хай апошнім будзе год няволь!*
*Узьнімай*
*над Радзімай бел-чырвону-бель!*
*Суцяшай*
*сьвентай пометаю нязгойны боль свой!*
*Гэй, гэй, гэй, дзецюкі,*
*до' зьбіраць медзякі! —*
*Свабоду не купіць.*
*Гэй, гэй, гэй, дзецюкі,*
*лёс нам выпаў такі —*
*пара трымаць іспыт.*

*Хай,*
*нам каханыя даруюць хай,*
*не пра іх*
*мары, дзеі, сны і помяны, —*

*нам баліць*
*гэты ворагам зьняволены*
*край.*

*Гэй, гэй, гэй, дзецюкі,*
*до' зьбіраць медзякі! —*
*Свабоду не купіць.*
*Гэй, гэй, гэй, дзецюкі,*
*лёс нам выпаў такі —*
*пара трымаць іспыт.*

## Крывіч

*Ехаў крывіч цёмным лесам.*
*Ехаў, ногі з возу зьвесіў.*
*Ехаў крывіч на кані.*
*Ехаў, песьню пад нос бубніў.*

*Ехаў крывіч цёмным лесам.*
*Зла не рабіў ні Богу, ні бесу.*
*Ехаў крывіч на кані —*
*ні нажа, ні стрэльбы ня меў, ані.*

*Ехаў крывіч цёмным лесам.*
*Пугай лісьце з дрэў атрэсаў.*
*Ехаў крывіч на кані —*
*на яго напалі маскалі.*

*Ехаў крывіч цёмным лесам.*
*Маскалёў было тых, можа, зь дзесяць.*
*Ехаў крывіч на кані,*
*ўзяўся пугай сябе бараніць.*

*Ехаў крывіч цёмным лесам,*
*гнаў маскалёў праз усё Палесьсе.*
*Ехаў крывіч на кані,*
*гнаў маскалёў тры ночы, тры дні...*

*Прэч, маскале, зь белых крэсаў! —*
*Едзе крывіч цёмным лесам.*

**Гімн беларускіх скаўтаў**

*Абяцай, разьведчык, справы добрыя.*
*Цяжкі шлях ляжыць перад табой.*
*Глянь жа сьмела ў далі невядомыя,*
*будзь бадзёры целам і душой.*

*Абяцай, абяцай, абяцай,*
*Заўсёды абяцай.*

*Шмат людзей, гаротных і абражаных,*
*бараніць іх надышла пара.*
*Ты, разьведчык, сьвята абавязаны*
*быць на варце праўды і дабра.*

*Абяцай, абяцай, абяцай,*
*Заўсёды абяцай.*

*Ганьба тым, хто небясьпек спалохаўся*
*раўнадушны да людзкіх пакут.*
*А табе, павер, пад сілу праца ўся,*
*за цябе — і Бог, і родны кут.*

*Абяцай, абяцай, абяцай,*
*Заўсёды абяцай.*

*Пасьпявай да хворых і да кожнага,*
*у каго ратунку ўжо няма.*
*Абяцай імкнуцца да прыгожага.*
*Гонар май — і клятвы ўсе стрымай.*

*Абяцай, абяцай, абяцай*
*І гонар май — стрымай.*

## Шлюбная ноч

*Раманс*

*Не папракай мяне каханьнем,*
*на тэмперамент мой не наракай,*
*бо і ў самой пачашчана дыханьне,*
*чакае дотыкаў рука.*

*Ня важна, хто вясельны сьведка —*
*ім зроблена ўсе, як мага:*
*і неба — ў зіхатлівых сьвечках,*
*і цішыні гучыць арган.*

*Пад абразамі ночы ўкленчым:*
*Сусьвет — вось нашая царква.*
*Дазволь жа, адхіліўшы венчык,*
*бы першы раз, пацалаваць.*

*І цені ўсіх зямных мелодый,*
*бы птушкі, узьвіюцца ўверх.*
*І толькі гэтай ночы слодыч*
*у нашы душы ападзе.*

*Не папракай мяне каханьнем,*
*на тэмперамент мой не наракай,*
*бо і ў самой пачашчана дыханьне,*
*чакае дотыкаў рука.*

* * *

*Дагарае дзяньніца лучынай*
*па-над нашай маленькай Айчынай.*
*Пры сьвятле яе штопакаленьня*
*нас вучылі навуцы маленьня*
*то багам, то царам, то ідэі —*
*сьвятататнічаць і сьвятадзеіць...*

*Беларусы, —*
*ні ў шчасьці, ні ў скрусе*
*ні пагрозы, ані спакусы*
*нашай мары не запарушаць,*
*спадзяюся!*
*Растулем жа зьнямелыя вусны,*
*наталем жа змарнелыя душы*
*Беларусьсю,*
*беларусы!*

*Дагарае дзяньніца лучынай.*
*Час, калі нават вера — злачынства:*
*абразам — покуці, а ня сэрцы,*
*для пасадаў — гарышчы ды сенцы,*
*а ідэі — ня болей, чым сродак*
*адраджэньня ці скону народа.*

*Дагарае дзяньніца лучынай.*
*Ноч сьцякае расой на лагчыны.*
*Ноч сьцякае расой на пагоркі —*
*адчуваеце смак ейны горкі?*
*Хай жа высушыць дзень гэту горыч*
*шматвяковай ганебнай пакоры!*

*Дагарае дзяньніца лучынай*
*па-над нашай маленькай Айчынай...*

**Пагоня ізноў**

*Мінаюць вякі, а ў народу майго*
*ні шчасьце, ні гонар ня большае —*
*чужынскага хлеба ў чужынскіх багоў*
*чужынскаю мовай выпрошвае.*

*Пад пропаведзі камуністых айцоў*
*і з гімнамі ўяўнай свабодзе*
*упэўненым крокам ідзе ў небыцьцё*
*магутны калісьці народзе.*

*Пагоня, ізноў надыходзіць твой час,*
*дык здрады нам не даруй:*
*каня — наўскапыт і замахі мяча —*
*за Існую Беларусь!*

*Катуе-лютуе дзяржава-турма,*
*са сьцягу серп-молат ашчэрыўшы,*
*і блякне валошкавы дыямант —*
*аздоба ў кароне імперыі.*

*Але беражэ Беларусь Белабог! —*
*Каб зьнішчыць зь зямное паверхні*
*ўсіх тых, што Радзіме маёй чыняць боль,*
*імчыцца з-пад Грунвальда верхнік.*

*Пагоня, ізноў надыходзіць твой час*
*з адплатаю не марудзь:*
*каня — наўскапыт і замахі мяча —*
*за Вольную Беларусь!*

**Песьня пра яшчэ адзін падзел сьвету**

*Крыгі слоў тваіх раняць, бы помсьцячы,*
*мной аголены бераг душы.*
*Ты мяне пакідаеш апоўначы:*
*цьмені ростаняў — быццам крыжы.*

*Але — няхай сабе! — бывай,*
*я быў шчасьлівы, хоць часова:*
*у снах і марах — цалаваў,*
*наяве — ад пяшчот ахоўваў.*

*Ды найлепшай ад шчасьцяў замоваю*
*будуць мне твае мары аб іх —*
*у хвіліны адлігі зімовае*
*і ў пару пачуцьцёвых адліг.*

*Тады — няхай сабе! — бывай,*
*я выканаў свой абавязак:*
*бы той стары і добры бай,*
*табе панарасказваў казак.*

*Але ж ты ім ані не паверыла,*
*але ты абсьмяяла мяне...*
*Хіба не абыдуся бязь вераду*
*па тых днях, што прымроіў раней?*

*Таму — няхай сабе! — бывай,*
*я дасягнуў нарэшце мэты:*
*з душы пазрэзваны дзірван*
*ніколі не ўзгадуе кветак;*
*наўрад ці ўзьнікне прыгажосьць,*
*як марамх сабе ні пляскай, —*
*я ў гэтым сьвеце стаў мяжой*
*паміж рэальнасьцю і казкай.*

**Беларуская ламбада**

*Ахінула нас ноч сваімі веліч-крыламі,*
*выслала пакой цемры ды цішы пярынамі.*
*Сёньня для нас існуе цэлы сьвет,*
*але хіба ж ён нам патрэбен? —*
*Колькі магчыма пачуцьці хаваць*
*пад ягонай маралі зрэб'ем?!*

*Адмайляемся ад цнаты і ад распуснасьці,*
*каб настой пяшчот піць сьвятымі вуснамі.*
*Мой пацалунак — як верш пра Цябе,*
*столькі шчасьця ў ім і надзеі!*
*Я перад зьнічам каханьня свайго*
*ўсё жыцьцё гатоў сьвятадзеіць!*

*Нашых целаў два месяцовых прамяні,*
*піша імі лёс казку пра цябе і пра мяне...*
*Сёньня для нас існуе цэлы сьвет,*
*але хіба ж ён нам патрэбен? —*
*Колькі магчыма пачуцьці хаваць*
*пад ягонай маралі зрэб'ем?!*

**Дыпломная**

*Бывай, студэнцкая вольніца!*
*Навукі граніт, мацней,*
*бо іншыя прыйдуць з вуліцы*
*юнацтва — за нас спрытней*
*да Альма матэр за ведамі.*

*Бывай, студэнцкая вольніца!*
*нішто ня ў стане стрымаць*
*мае пакаленьне выльецца*
*туды, дзе трон і турма*
*чакаюць, хто іх наведае.*

*Бывай, студэнцкая вольніца!*
*Міне разьвітальны абрад —*
*наўрад ці жыцьцё запаволіцца*
*шпарчэй пацячэ наўрад;*
*але абмялее, ведама.*

*Сягоньняшні вечар-медыум,*
*напэўна, таму віной,*
*што нашыя сэрцы поўняцца*
*пачуцьцяў лёгкім віном...*
*Бывай, студэнцкая вольніца!*

# <u>Г е к з а м е т р ы</u>

## На Пакровы

*Дрэвы — васковыя быццам*
*Нейкай вяршаліне ўспыхнуць,*
*Ды не сьпяшаецца сонца*
*скончыўся год паляводчы*

*Поўніць паветры і сэрцы*
*Мала мужыцкага веку*
*Ледзь раскурылася люлька,*
*дым тытунёвы сплывае*

*у ранішняй нерушнай золі.*
*здаецца, праменя даволі.*
*адсунуць туманаў фіранку —*
*і на беларускім фальварку.*

*пранізьлівы восеньскі смутак.*
*дазнацца, за што і чаму так.*
*— мінаючы выспы і ляды,*
*на бераг ягонай Элады...*

**Належнае Амуру**

*Хай ты ня першым слывеш*
*(праўда, з прычыны адной:*
*а паспрачацца з табой*
*можа ня кожны з багоў,*

*Стрэлы свае ты трапней,*
*Жарсьцяў настоем п'яніш*
*І перамогу заўжды*
*Церпіць уладу тваю*

*Людзі да зьніча нясуць,*
*моляць, Амур, у цябе*
*Не пакідай жа душы —*
*бо гэтак важна глухім*

*між багоў старажытнага сьвету*
*толькі дорыш і не адбіраеш),*
*ва ўладарстве над чалавекам*
*зазываючы нават і раем.*

*чымся Марс ваяўнічы, пускаеш,*
*лепш славутага Вакхава зельля.*
*без дазволу Вікторыі маеш.*
*сам Юпітэр — у небе й на землях.*

*ахвяруюць уласныя сэрцы,*
*заступіцца хаця б за пачуцьці...*
*ні адзінай — на зьед паняверцы,*
*ведаць, што іх астатнія чуюць!*

**Нагавор на навальніцу**

*элегічны двуверш*

*Вецер шалёны прынёсься адкульсьці з чужынскай старонкі —*
*вусьціш чужынскіх старон вецер шалёны прынёс.*

*Перад сабою прыгнаў ён табун неаб'езджаных хмараў —*
*Белыя землі спустошыць хмары з чужыны прыгнаў.*

*Біў капытамі па руні, біў неміласэрна так градам —*
*потым бы кожны сказаў: біў капытамі табун.*
*Мала надзеі на тое, што ўсходы узьнімуцца з часам*
*мала надзеі на тых, трэба чакаць веснавых.*

**Замова ад памяркоўнасьці**

*Паўстань, народ, з каленяў,*
*пакуль у венах шчэ*
*мінулых пакаленьняў*
*кроў вольная цячэ.*

*Выходзь, мужык, з-за плоту,*
*суседа падбухтор —*
*зваюй сабе свабоду.*
*Калі не ты, дык хто?*

*Май гонар! Колькі ж можна*
*ў галечы гнуць сьпіну?!*
*Здабудзь сабе заможнасьць,*
*ану!*

*Адрынь чужую мову,*
*пакінь на час гарод,*
*каб жыць пачаць нанова —*
*паўстань, народ!*

## **Х о к у**

### **Узыход сонца**

* * *

*Тоне мурашка*
*ў лужыне людзкай крыві.*
*Сьвет у жалобе.*

* * *

*Раскрышаны хлеб.*
*Брудны асфальт кірмашу…*
*Пакінь вараб'ям.*

* * *

*Стары адпачыць*
*сеў на сотай прыступцы.*
*Апошні паверх.*

* * *

*Падае зорка,*
*абы збылося тваё.*
*Пасьпей загадаць.*

* * *

*Гнецца сьцябліна*
*пад цяжарам страказы.*
*Летняя сьпёка.*

* * *

*Водар чаромхі*
*плыве па-над вёскаю.*
*Човен дня повен.*

* * *

*Брудны бульдозер*
*бадаецца з гурбаю.*
*Горад пад сьнегам.*

* * *

*Столькі памылак*
*зроблена мной пасяньдзень.*
*Нельга закрэсьліць.*

* * *

*Наліты яблык*
*высьлізнуў з лап галіны.*
*Разаб'ецца ўшчэнт.*

* * *

*Напішаш хоку —*
*і ўжо ўважаеш сябе,*
*няйнакш, японцам.*

* * *

*Дзяцінства йдзе дзыбастаю хадой,*
*маланкаю мільгае маладосьць,*
*напорыста ступае сталасьць*
*і з кульбаю кульгае старасьць...*

*Так, з рознай хуткасьцю, але ў адным напрамку*
*яны праходзяць, каб націснуць клямку*
*і расчыніць прад намі дзьверы ў нікуды*
*і перадаць нас, цёпленькіх, бясконцасьці ў абдым.*

**Медытацыя**
**даўжынёй у чалавечы век**

*Жыцьцё — пара чаканьня шчасьця,*
*аж покуль сьмерць касой ня шасьне.*

* * *

*Сястра.*
*Прыехала з Амерыкі.*
*Не прыгубіўшы нат віна,*
*мы зь ею памяці куфэркі*
*перабіраем да відна.*

*Ні я, ні мне яна ня вінна*
*такое ласкі Божае:*
*клубок сямейных успамінаў,*
*здаецца, толькі большае.*

*У ім усе так пераплецена,*
*заблытана і скручана —*
*радзіны, хрэсьбіны, агледзіны,*
*дні нараджэньня, паўналецціны,*
*у войска провады, заручыны,*
*вясельлі і адведзіны...*

*Аж ноч прапахла нафталінам*
*і дзіўна, састарэла як!*
*Але, каб сэрцы наталіць нам,*
*патрэбна вечнасьць цэлая*
*або адзіная Айчына.*

*Так і было калісь раней.*

*...Капціць мінулых дзён лучына,*
*ад сажы сьлед — адно на мне.*

# <u>**А к р а в е р ш ы**</u>

* * *

***І на**д золкай дал**іна**й жыцьця сьвецяць зорк**і**—*
***Н**е над кожнаю, а **н**ад маёю з дал**і**н**.*
***А** таму — хай н**а** сэрцы і золка, і горк**а**,*

***І**м ня пера**іна**кшыць н**і**колі нічога, ан**і**:*
***Н**аніжу свае дні, бы **н**атолены сонцам буршты**н**—*
***А** іх столькі на нітк**а**х пачуцьцяў памесьціцц**а**! —*

***І** табе ахвярую карал**і** такія. Вазьм**і**,*
***Н**а жыцьцёвай сьцяжы**н**е — адз**іна** палы**н**,*
***А**д якога каралі т**а**к выйгрышна розьняцц**а**...*

* * *

***Іна**кшай новай дол**і** не шукаю **і**ншай дол**і***
***н**апоўнены мой дзе**н**ь табой ад**н**ою пове**н***
***а**д гэткага в**іна** м**а**цнее ўласн**а**я в**іна***

*за тое што хоць нешта ў нас ня гэтак а інакш*

# Б р а х і к а л а н ы

## Век

*Санет*

*Рой*
*сноў —*
*строй*
*слоў—*

*стос*
*спраў —*
*стод*
*страт —*

*сьверб*
*мар —*
*сьмерць —*
*марш.*

*Сьлед —*
*ледзь.*

**Пра жыцьцё,**
**сьмерць**
**і верш аб іх**

*Гра-*
*хі.*
*Кар-*
*ван.—*
*Бра-*
*хі-*
*ка-*
*лан.*

**Складаю верш, каб паглядзелі**
**ў тэатры дня Вы тую дзею,**
**якую зараз я гляджу, —**
**занадта шпаркае падзеньне**
**доўгачаканага дажджу**

*Град*
*біў:*
*ад*
*ніў —*
*а-*
*ні.*

* * *

*Жыцьцё —*
*асьцё*
*надзей.*

*Штодзень —*
*абы*
*здабыць*
*сабе*
*абед.*
*Ці ж вар-*
*ты жарт?*
*Хай Вам —*
*царква,*
*шынок,*
*вянок.*
*А мне —*
*бальней*
*увесь*
*Сусьвет.*
*Калі*
*таліць*
*той боль*
*сабой,*
*каб воў-*
*кам выць —*
*навош-*
*та Вы?*

*Уцяць*
*выцьцём*
*Вас і —*
*наўцёк...*

*Няўцям?*
*На сьцяг.*
*Пад ім*

*баі*
*і мір*
*прымі.*
*Пад ім*
*стаі*
*няма-*
*ла мар —*
*дарма.*
*Дар май*
*зглядзець:*
*жыцьцё —*
*асьцё*
*надзей.*

* * *

*Ноч стагнала маланкамі,*
*але,*
*так і не нарадзіўшы дождж,*
*сканала.*

*Прыімчаў спалоханы сьвітанак*
*і крыкнуў аб ейнай сьмерці.*
*Мы адкрылі вочы*
*і салодка пацягнуліся...*

## Персьпектыва вечара

*Распаўзлася пляма ад чырвонага віна*
*па абрусе неба, аблокамі вышытым...*

*Вернецца дахаты ноч — злосная жана,*
*мужа-небараку выжыве.*

* * *

*Ў дзіцячым вядзёрку неба*
*пайнютка цёмна-сіняга пяску.*
*Стары,*
*узгадваючы сваю маму,*
*малюе на ім*
*кульбаю*
*пажар.*

*Полымя*
*абпальвае жылістыя рукі,*
*але ў выцьвілых зрэнках —*
*цішыня.*

*Старому ўжо зашмат гадоў,*
*ён — амаль вечар...*

## Н а д п і с ы

* * *

*"Вы на гэтым сьвеце госьці", —*
*мовіць надпіс на пагосьце.*
*Мы ж ня вохкаем занадта:*
*пачакае тая хата...*

**Тавар — Грошы — Адплата**

*На Шклоўшчыне паставяць пустацелы стод.*
*Няведама, ці ў некага узьнімецца рука*
*накрэмзаць колькі слоў на ім — напрыклад, што*
*зямля такая ўзгадавала Беларусі байструка;*
*ад байструка ж павагі да бацькоў чакаць — наіў;*
*і гэты распрадаць сваю айчыну наравіў.*

* * *

*Закарцела "царскіх паўнамоцтваў"?*
*Ў Канстытуцыі знайшоў прарэх?*
*Лепш бы ты сваей "рукою моцнай"*
*чвэрый толькі свой бабыльскі грэх.*

**Надпіс**
**на падручніку па гісторыі,**
**які прызначылі да зьнішчэньня**

*Аддаў загад: "Падручнікі пад нож" —*
*нібы ў сярэднявечча, хутка згрэблі як!*

*Змагацца з нашых продкаў славай? Што*
*ні сорам, ані сьмеласьць не патрэбныя.*

*Для нацыі твой бзык — адно што бзык;*
*Цанаву вытрымала — і цябе агорае.*
*Вы зь ім — нібы таблеткі (пад язык)*
*ад талерантнасьці — дарма што горкія...*

* * *

*Ну, яшчэ адзін рэферэндум выйграў.*
*Ну, яшчэ пару Пазьнякоў з краіны выгнаў.*
*Але ж гэта ня можа цягнуцца бясконца:*
*пасячы хоць усіх пеўняў, а ўзыдзе сонца.*

**Мышы пад венікам**

*байка*

*У чыёй кладоўцы быў бардак,*
*няведама.*
*Да той кладовай*
*народ мышыны нейк, аднак,*
*паклікаў пацука з-пад Шклова.*

*І вось прыпёрся.*
*Франт франтом.*
*У кожным руху — прагна сілы.*
*З узьнятым дагары хвастом,*
*а на хвасьце — тры валасіны.*

*Сабраў мышэй і мовіў ім:*
*— Настала сьветлае сигодня.*
*Кто ни жалает,*
*я к таким*
*использую мандат народный.*

*Дэкляраваў на ўсе басы:*
*кладоўку ад катоў ачысьціць,*
*удосталь сыру й каўбасы*
*і ступу запусьціць.*
*Кудысьці.*

*А да таго ж паабяцаў*
*яднаньне з катухом,*
*дзе куры, —*
*не з-за прыгожага слаўца,*
*а з-за узьнёслае натуры.*

*Маўляў, яйцо —*
*за паўцаны!*
*А згоды ў пеўня не пытайся,*
*таму з пытаньнем яйцавым*

*пазьней, бы "кур во щи", папаўся.*

*Але —*
*даволі пра яго.*
*Я не зь яго хацеў сьмяяцца —*
*-з электарату, у каго*
*няма ні розуму, ні яйцаў.*

**Выключны**

*байка*

*Вырас грыб — і думаў: "Зручна*
*вырас я — ніхто ня рве.*
*Мо таму, што я выключны*
*ці што ўзьнік у крапіве.*
*Трэба ж мець таксама голаў,*
*каб зьявіцца ў жорсткі сьвет*
*не ў якімсьці полі голым,*
*а ў пякучай крапіве.*
*Дзе ні глянь — шыпы, калючкі...*
*Скуру з грыбніка сарве.*
*Мо таму, што я выключны,*
*месца мне — у крапіве".*

*Так і згніў, а не дапёр,*
*што ня рвуць, бо мухамор.*

**Рэфрэн роспачы**

*Бездараж.*
*Тры вякі на бальшак нам ня ўзьбіцца.*
*Бездараж.*
*Без дагляду рассохла капліца.*
*Бездараж —*
*не дайсьці да яе, каб маліцца.*
*Пыл пакрыў абразы на паліцах,*
*патачыў шашаль дошкі парога —*
*Беларусі далека да Бога*
*ці яму не да нашай зямліцы —*
*Бездараж.*

**Пірыхій перад перамогай**

*Прыйшла пара — і беларусы сталі ў строй.*
*Трывогу граюць у варожым стане.*
*Няйнакш, адчулі наш настрой,*
*пачулі наш вакол кастроў*
*ваенны танец.*

*Мы не хаваем, што рыхтуемся на бой,*
*і ўсё ж праціўніку не застаецца шанцаў —*
*бо з Богам мы, бо з намі Бог!*
*Пара, каб нам Ён дапамог —*
*ваенным танцам.*

*Ня трэба нам зямлі і спадчыны чужой,*
*але свае адваяваць мы ўрэшце ў стане:*
*ужо зараджана ружжо*
*і распачаты наш ужо*
*ваенны танец.*

*Штандар высока ўзьняўшы над сабой,*
*мы выступім, як толькі сонца ўстане.*
*І там, дзе потым прымем бой,*
*са сьмерцю станчым існы свой*
*ваенны танец.*

*Прыйшла пара — і беларусы сталі ў строй.*
*Плячам прыемны цяжар спакаваных ранцаў.*
*Адным, Радзіма, нас узброй*
*і сілы нашыя патрой —*
*ваенным танцам...*

* * *

*Niech będie Polska, ktora nie zgineła!*[3]
*И ты, Россия, благословенна будь!*[4]
*Lietuva, ir Tu didvyriu žemê!*[5]

*А Беласток, Смаленск і Вільню*
*ўсё-ткі прыдзецца вярнуць.*

## Крыжаверш

*Для вас мой верш узор, прычым ня горшы,*
*бесчалавечнасьці малюе:*
*"Нябачны коршун кіпцюрамі зор*
*схапіў Зямлю і пацягнуў праз Вечнасьць"...*

---

3 Хай жыве Польшча, якая не згінула! (польск.)
4 І ты, Расія, баслаўленная будзь! (рус.)
5 Літва, і Ты – зямля герояў! (літ.)

* * *

*Нанізваю дзён бобкі*
*на паскі дарог у свой Рым:*
*на Каляды я — валачобнік,*
*ў Вялікдзень жа — пілігрым.*

**Адказы**

*Жыцьцё? Перапынак у вечнасьці.*
*Каханьне? Зьнянацкавы вір.*
*Свабода? Жаданьне на веча йсьці.*
*А сьмерць — кошт свабоды й любві.*

## <u>Ц э н т о н</u>

**Багдановіч - Беларусь**

*Ён быў, як месяц, адзінокі:*
*Самотна жыў, самотна ўмёр...*
*Упалі з грудзей Пана Бога,*
*Парваўшыся, пацеркі зор.*
*Заміж персідзкага вузору —*
*Зялёны, быццам лёд, холодны небасьхіл.*
*І месца, дзе няма прастору*
*Дзеля прыроды буйных сіл.*
*Душой стаміўшыся*
*ў жыцьцёвых цяжкіх бурах,*
*Ад родных ніў, ад роднай хаты*
*Мужык ідзе, — на сьвітцы латы,*
*Ў душы гарыць агонь нуды пануры...*
*Вось сымбаль твой, забыты краю родны! —*
*Падаюць вішняў цьвяты,*
*і разносіць іх вецер халодны.*

*Ёсьць чары у забытым, старадаўным!*
*Каб загаіць на сэрцы раны,*
*Каб хоць душой у прошлым патануць,*
*"Вянок",*
*Наш родны, забыты ў цяньку васілёк.*
*Ў блакіце пракладае пуць*
*Сьвятыня лёгкаю ступою*
*Венера узыходзіць над зямлёю.*
*І вулкі Вільні зьзяюць і грымяць.*

*Кроў к сэрцу. Мана ўсё або не?*
*Старадаўнай Літоўскай Пагоні*
*Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!*

**Першапрафесія**

*Прыемна пачуць мне, як ляскае пуга*
*і пошчак нясецца далека над лугам.*

*Падлетак-пастух гэтак важна ступае,*
*што кожны дарогу яму саступае. —*

*Ён самы галоўны сягоньня на вёсцы.*
*Прысмакі — у ягонай старэнькай авосьцы.*

*Мужчыны жартуюць: "Дырэктар кароваў".*
*Жанчыны паводзяць сябе зь ім, як з роўняй.*

*А ён не зважае. Ідзе, ганарысты*
*ад усьведамленьня ўласнай карысьці.*

*Ды толькі мінецца апошняя хата*
*і разбрыдзецца па выгане статак —*
*Далоў ганарыстасьць няёмкую тую.*
*Тут край, дзе ягоныя мары пануюць.*

*Тут хвілі і хмары — паволі, як можна —*
*сплываюць за край жытнёвае пожні.*

*Тут гойдае вецер водар маліны*
*і думкі рыфмуюцца з гулам пчаліным.*
*А вочы, а сэрца, пачуцьці і словы*
*што рух — то пілнуюць, што гук — тое ловяць,*
*што колер — скрадаюць, каторы ярчэйшы,*
*і ткуць зь іх да зайздрасьці шчырыя вершы...*

*Я думаю, што менавіта праз гэта*
*на Беларусі так многа паэтаў.*

* * *

*Што жыцьцё? —*
*Кароткая замінка*
*перад стрэчаю зь Дзядамі і Айцом.*

*Гэта разумееш на памінках*
*І трымаеш доўгае слаўцо.*

**Васьмірадковік пра аднаго**

*Хмары ўзялі ў аблогу горад.*
*Хмары паслалі стрэлы маланак.*
*Хмары паслалі кулі дажджынак —*
*і нехта адважыўся ўрэшце на ўчынак:*
*кінуў глядзець на ўсё з-за фіранак,*
*выйшаў — і горад прыкрыў сабою.*

*— Учынак бязглузды, бо ў тым іншаверцы*
*білася гэтага гораду сэрца.*

* * *

*Дваццаты век сыходзіць у нябыт,*
*а Беларусь усе на раздарожжы:*
*вагаецца, раздумвае, абы*
*не памыліцца з выбарам. А Божа!*

*Настаў яе на існы шлях, на той,*
*дзе самаіснасьці сьвяты настой*
*не кружыць галаву, а надае адвагі.*

*Дай ей глынуць свабоды з той біклагі,*
*што вольныя пілі, а не рабы.—*

***Дваццаты** хай сыходзіць у нябыт...*

## Стары беларус

*З душы яго, латанай-пералатанай,*
*шчасьце — быццам пясок праз пальцы.*
*Думкам яго пра зямельку сваю і пра хатку на ёй*
*доўгай сівой барадой целяпацца.*

*Коціцца бору сонейка жыцьцядайнае,*
*хіліцца долу жыцьцейка чалавечае...*

*Бэрхайся, брат, між доляй таннай і тайнаю,*
*покуль табе ня тыцнуць у рукі сьвечкаю.*
*Божа дазволіць — там, за мяжой тагасьветнаю,*
*зьведаеш нешта, дзеля чаго пакутаваў, —*
*сьветлае,*
*сутнае,*
*суднае.*

**Deja vu**

*Ад чаго так сьціскаецца сэрца?*
*Хто яго пачуцьцём гэтак выцяў?*
*Быццам птушка з грудзей маіх рвецца*
*да нязьведаных іншымі высяў.*

*Раптам мала там стала ёй месца.*
*Не глядзіць, што падманнае выйсьце.*
*Ад чаго ж ува мне ёй няймецца?*
*І якой яна прагне карысьці?*

*Зерне мар сыпаў шчодра з кубельца,*
*з рук паіў — сон ніводзін ня выцек.*
*Чым жа нейкае дробнае шкельца*
*вабіць птушку — хто-небудзь, скажыце!*

*...Непазьбежна. Аб шкло разаб'ецца.*
*Вось фінал звышэфектны для жыцьцяў.*

* * *

*Туга*
*аднекуль да хаты маёй прыблудзіла.*

*Уга,*
*як доўга нічыйнай па сьвеце хадзіла!*
*А тут*
*за гаспадара чамусьці прызнала.*
*Пакут*
*жабрацкую торбу пры мне разьвязала.*
*У кут*
*паставіла кій свой; відаць, што надоўга.*
*Пакуль*
*ня выжыве з храму надзей маіх Бога.*
*Аднак*
*я вучаны ёю, і ўжо неаднойчы. —*
*Адзнак*
*ад гэтай вучобы — як іклаў ад воўчых.*
*Адно*
*хай сонца кране край нябеснае сьферы.*
*На дно*
*нябачнай рачулкі сьцякуць кроплі цемры.*
*Збуджу,*
*падам ейны кій, правяду да парога.*
*Згаджу*
*ў дарогу з тугою нябогу якога.*

*А не —*
*ізноў хай нічыйнай па сьвеце паходзіць.*
*Мяне*
*дастала яна сваей вернасьцю, годзе!*
*Курган*
*нязьдзейсьненых мараў зь мяне неважнецкі.*
*Туга*
*дарэмна знайсьці тут прытулак імкнецца.*
*Дарма*
*аднекуль да хаты маёй прыблудзіла.*

*Няма*
*надзей у яе на мяне — ні адзінай.*
*Аднак*
*за гаспадара прызнала чамусьці…*

*А як*
*бадзягу ва ўласную хату ня пусьціш?*

* * *

*Жнівеньская ноч на Беларусі!*
*Хто пазычыў ёй каралі зор?*
*Хто вянок сплёў асаковы — мусіць,*
*востры, быццам у касы лязо?!*
*Дзе яна ўвабрала гэткі водар,*
*што аж кружыць галаву маю?*

*Ачуняць каб, у крынічных водах*
*вобраз ейны вуснамі лаўлю.*

*П'ю. І смагу наталіць ня ў стане,*
*адчуваю, што раблюся каняй.*

*І назаўтра аб дажджы малю,*
*па намаляваным небасьхіле*
*крэмзаючы неслухмяным крыльлем.*

*Вострым, быццам у касы лязо.*

## Асацыяцыя з птушкамі

*Спуджаныя мною, жоўтыя лісты*
*разьлятаюцца з-пад ног — зьнянацку.*

*Шкода, што на дрэвы ім ды на кусты*
*ўжо ня ўзьняцца.*

*Я — міжволі кінуты сюды*
*ў гэты парк і гэты сум жабрацкі...*
*Надакучыў лёсу за гады —*
*вось і быў ім кінуты, як цацка.*

*Спуджаныя мною жоўтыя лісты*

## ***Той, чыё каханьне наталяла мяне натхненьнем***

*Будзе поўнік глядзець з-за фіранкі,*
*будзе швэндацца вецер ля хат...*
*Прасьпяваю табе калыханку,*
*як пачну цябе калыхаць.*

*Голас грубы, ды жарсьці ён повен—*
*нават мар за ім не схаваць:*
*на маёй, беларускай, мове*
*немагчыма няшчыра сьпяваць.*
*І калі хто ў тутэйшым народзе*
*адцураўся яе зусім —*
*з-за таго, што слоў не знаходзіў,*
*— тых, якімі зручна хлусіць...*

*Ледзьве чутна табе прасьпяваю*
*аб ракіце і лесе наўкол,*
*а каб спаць не надумала з краю,*
*напалохаю мо ваўком.*

*Беларускі воўк ці тамбоўскі,*
*усё роўна сьвету чужы:*
*вочы — дзьве незагойныя болькі,*
*іклы — кіпці ягонай душы.*
*Пнецца вывыць сябе ён вонкі,*
*ды за ноч — ці ж яму пасьпець?*
*Зьвер, ды й толькі. Адно што ня свойскі*
*рук ня ліжа і пойла ня п'е.*

*...Калыханка цяжарыць вейкі, —*
*пад яе засьне і Пан Бог.*
*Сьпі і ты. Сны — найлепшыя лекі.*
*Сьпі, бо ява — нязгойны боль.*

*Добрай ночы! А я апрануся*
*і падамся з хаты хутчэй,*

*толькі вось няхай дакрануся*
*вуснамі да тваіх вачэй.*
*Хіба ж ёсьць больш існае нешта?*
*Я кахаю — кахай і ты,*
*нават заўтра, калі прачнешся,*
*а мой ложак будзе пусты.*

*Ды пакуль яшчэ тую дзяньніцу*
*дзень схавае сабе пад крысо,*
*хай табе пра мяне прысьніцца*
*моцны, самы прарокі сон.*

*Ціха-ціхенька выйду з хаты,*
*быццам злодзей ці дабрадзей.*
*Здэцца, сёнач нейкае сьвята?*
*Дык чаму ня бачна людзей?*
*Вёска кінута імі ў немач,*
*як скарынка чэрствая ў гразь;*
*ціш і цемра. Вось толькі неба*
*жмурыць вочы зьвярыных зграй.*

*Сон, што ноч каменьні шпурляцьме*
*на бальшак, па якім іду, —*
*нават у месяцовай зацьме*
*іх ня бачна, як на бяду.*

*Да крыві пазьбіваю ногі,*
*перш чым стрэцца — за вёскай ужо,*
*у ляску ля самай дарогі —*
*хоць з адною жывою душой.*
*Крыкну: "Браце, чым гоіш верад?*
*Цудадзейнаю кветкай ці не?".*
*А сустрэчны, зірнуўшы зьверам,*
*іншай сьцежкай мяне абміне.*

*Як табе за мяне балюча!*
*Каб хоць неяк дапамагчы,*
*схопіш сном сваім за калючкі*

*тую зорную далячынь.*

*Путацьмуся ў павоі сьцежак*
*і чапляцьмуся за рукаў:*
*— Пачакай, удваіх лягчэй жа*
*кветку-папараць адшукаць!*
*Надакучу, дык ён адмовай*
*штурхане мяне злосна прэч:*
*— Каб дзяліць яе на паловы,*
*пашукай больш танную рэч!*

*Сколеш сьненьне аб голыя голкі,*
*а сарвеш і мне падасі*
*дзьве найбольш яскравыя зоркі*
*зь Леанідаў Белай Русі.*

*...Будзе поўнік глядзець з-за вяршалін,*
*будзе сноўдацца вецер за мной.*
*Мне гадалкі заўжды пагражалі*
*адзінотай на сьцежцы лясной.*
*Я нічога тут не шукаю —*
*цемру п'ю, каб крыўду суняць,*
*і, хутчэй падсьвядома, блукаю*
*ад прывіду агня да агня.*

*Падасі, а ўтрымаць ня ў моцы —*
*раптам высьлізнуць бобкі зор,*
*быццам нехта па целе ночы —*
*да крыві — паласьне лязом.*

*Блісьне блізка, асьлепіць сабою*
*бель няведамага зьніча;*
*каб вось гэтак пад час двубою —*
*не адолеў бы ўзьняць мяча.*
*Што за дзіва? Няўжо не на словах*
*кветка-папараць існуе?*
*І які такі добры Прова*
*кросны лёсу майго сную?*

*Нават і загадаць жаданьне*
*не пасьпею, — збылося каб, —*
*як падкоцяцца зораў здані*
*да мяне вачыма ваўка.*

*Дакрануся да кволай сьцяблiны,*
*апяку і рукі, і твар,*
*а — праз боль — пачну аб адзіным:*
*"Крэва... Белая Русь... Літва...*
*Як бы край тутэйшы ні звалі*
*вы, што кветку дасюль сьцераглі,*
*майце хоць сьлязiначку жалю:*
*дайце волю гэтай зямлі!"*

*Зьвер пачне, утаропіўшы пагляд,*
*мне руку лізаць — страх дражніць...*

*Мы ад гэтага сну зьнямоглі,*
*я прашу цябе, хопіць сьніць!*

*Турзану — адарвецца лёгка,*
*пырсьне полымем нічыя*
*кветка-папараць. Буду вохкаць,*
*па траве качаючыся, —*

*А НІЧОГА НЯ ЗЬМЕНІЦЦА Ў СЬВЕЦЕ.*

*...Ты прачнешся ў халодным поце*
*(страшна, любая. Нават мне),*
*паратункава кінеш позірк*
*на пасьцель маю пры вакне —*

*АНІЧОГА НЯ ЗЬМЕНІЦЦА Ў СЬВЕЦЕ.*

*— (здагадкаю спатыкнешся*
*аб нясланы ложак: няўжо*
*недзе ёсьць больш існае нешта,*
*калі я ад цябе пайшоў?..*

*Стамлюся на шляхах Айчыны,*
*вярнуся да цябе падслухаць мары*
*і душу залатаць —*
*маўляў, даруй, пусьці ж у хату...*

*А ты мне дзьверы не адчыніш.*
*Ці ж верыць? — Мне, гаспадару!*
*Абразамі душу ашчэру,*
*а ты — не адчыняй мне дзьверы,*
*ніводнай мары не даруй.*

*...Пастаю хвіліну на ганку*
*і падамся ў прочкі ізноў.*

*Засьпявай па мне калыханку,*
*закалыхваючы сыноў.*

*Нахлусі, што бацьку ўся вёска*
*па Радзіму выправіла,*
*баславеньнем людзкім і боскім*
*памяць пра яго спавіла,*
*а пасьля ўсьлед глядзела моўчкі.*
*Толькі нейкі адзін стары*
*загаворваў ад іклаў воўчых,*
*ад жаноцкіх вачэй і крыўд.*
*Не маглі ж яго загаворы*
*бацьку неяк не засланіць*
*ад чужынскіх шчасьця і гора,*
*ад чужынскіх віна й спадніц!*

*Дакляруй малым, што аднойчы*
*я прыйду да свайго жытла,*
*пастаю пры дзьвярох, каб ночы*
*немач трохі зь мяне сьцякла.*

*І на покуць пачну хрысьціцца,*
*і зьнямогла складу на стале*
*ў велізарных далонях гасьцінцы*

*мо суніцы, мо "зайчыкаў хлеб"...*

*Закалыханыя падманам,*
*хлопцы ўбачаць прароцкі сон:*
*рукі бацьку ліжа аддана*
*воўк, жахноцьце сёл і лясоў.*

*Не палоханы гэткім лёсам,*
*нехта зь іх усьміхнецца ў сьне...*
*Сьпі і ты, сон стрымае сьлёзы.*
*Сьпі, мне ява твая бальней.*

*Адкасаючыся ад явы,*
*прашапчы — ці ў жарт, ці ўсур'ёз:*
*"Як зладзеіць на сьвеце д'ябал —*
*гэта ён бацьку з хаты зьвёў".*

*І падумай, ужо празь сьненьне:*
*— На якіх бы вятрох ні ськівець,*
*пра які б там край ні пісьменіць,*
*ад якіх бы мар ні сівець,*
*а Радзіма — ля роднае хаткі,*
*дзе радзіна і дзе калыханкі.*

*Ды пад хмелем чужынскіх абрадаў*
*сэрцам, вартым акамянець,*
*я спасьцігну новую праўду,*
*што Радзіма мая — ўва мне,*
*калі ёсьць ува мне хоць штосьці,*
*акрамя самой ягамосьці...*

*Мо, як воўк, аж да самага ранку*
*буду выць па сабе калыханку. —*
*Хіба ж маецца кара пачэсьней,*
*чым гаіць свае болькі песьняй?!*
*Хіба ж маецца кара*

## *Зьмест*

Гаворыш, а словы тваe ні аб чым
Мне дзяўчына чытае вершы
Маёй ноччу
Выбягаю, расхлістаны, зь інтэрнату
Гукаю шчасьце
Маўчыш. Душа нібы лядо
Мой дзень твайго анёла
Я шукаю апошнія ружы
Сэрца маё палоніць
"Як не хочацца мне пакідаць гэты дзень!.."

**Амаль што белыя ночы**
Кладзецца зер пачуцьцяў паўз царкву
Удзень, калі цьвіла вада на рацэ Вялікай

**Крывыя люстэркі**
Што ты ходзіш за мной, мой ценю
Наўрад ці
Толькі казка

**Содні**

**Стрэмкі**

**Міжрадкоўі**

**Родны склон**
Эпітафія выбарам

**Кроплі шчасьця**
Не, ня веру, што сустрэч ня будзе
Ты мяне вінаваціш ізноў
Усё было гэтак падобна на сон
Першы санет
Я заракуся больш кахаць
На сьвітаньні прачнуся спалохана
Парушальнікі немачы
Нейкая казка-блюз

**Альбомная лірыка**